

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

**Address:** P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

**BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.**
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

**№ 476 Верасень 2002 г.**
Год выданьня 52

# 25-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

У суботу 31-га жніўня ў Нью Брансвіку, штат Нью Джэрзі, пачала сваю працу 25-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. У канфэрэнц-залі гатэлю "Гаят-Рыджэнсы" сабраліся некалькі соцень прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў ЗША і Канады, госьці зь Беларусі. Сустрэчу адкрыў старшыня аддзелу БАЗА на штат Нью Джэрзы сп. Юрка Азарка, які быў старшынём арганізацыйнага камітэту Сустрэчы. Ён павіншаваў прысутных і адзначыў у сваім уступным слове, што сёлетняя Сустрэча зьяўляецца юбілейнай, адзначае 50 гадоў традыцыі правядзеньня гэтага найвышэйшага форуму беларускіх арганізацыяў заходняе паўкулі. Шмат было зроблена за гэтыя 50 гадоў, і шмат застаецца яшчэ зрабіць. Тэма Сустрэчы была: "Роля беларускай эміграцыі ў дэмакратызацыі Беларусі й захаваньні незалежнасьці", і гэтая Сустрэча павінна паспрыяць выпрацоўцы агульнай пазыцыі й новых падыходаў да сытуацыі на Бацькаўшчыне. Удзельнікаў прывіталі кароткім словам старшыня Рады БНР спня Івонка Сурвіла, старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць, старшыня грамадзкай арганізацыі "Беларуская Перспэктыва" сп-ня Валянціна Трыгубовіч; былі зачытаныя прывітаньні ад шэрагу арганізацыяў, у тым ліку ад беларусаў Аўстраліі, ад Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, ад арганізацыі "Бацькаўшчына".

Затым прайшоў сымпозыюм "Роля беларускай эміграцыі ў дэмакратызацыі Беларусі". Прысутныя далучыліся да трох дыскусійных групаў або "круглых сталоў" пад назвамі:

- аналіз сучаснай палітычнай сытуацыі ў Беларусі й перспэктывы дэмакратызацыі;
- уздым беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў змаганьні за дэмакратычную і незалежную Беларусь;
- справа пераемнасьці пакаленьняў паза межамі Беларусі й захаваньня культурнай і гістарычнай спадчыны.

Першы круглы стол вялі сп. Віталь Зайка, старшыня нью ёрскага аддзелу БАЗА, і сп-ня Валянціна Трыгубовіч, старшыня аб'еднаньня "Беларуская Перспэктыва". Прысутныя разгледзелі ход апошніх падзеяў у Беларусі, прааналізавалі стан палітычных сілаў і дзейнасьць міжнароднай супольнасьці ў дачыненьні да Беларусі. Было канстатавана, што нягледзячы на пэўны спад палітычнай актыўнасьці, у Беларусі даволі памысна ідзе фармаваньне грамадзянскай супольнасьці й тое, што найбольш патрэбна цяпер - гэта каардынацыя дзеяньняў дэмакратычных сілаў, грамадзкае паразуменьне. Нягледзячы на пагрозу незалежнасьці, нацыянальныя сілы мусяць працягваць барацьбу і супраць рэжыму, і супраць расейскай экспансыі, бо менавіта Лукашэнка і ягонае атачэньне сьведама падвялі краіну да страты незалежнасьці, якую яны прызнавалі, і тое не заўсёды, толькі на словах.

Для абароны Беларусі ў Вольным Сьвеце, нам трэба шукаць палітыкаў, якія ўважаюць, што дзяржаўнасьць мае нацыянальныя асновы. Прадстаўнікамі такой плыні ёсьць Джэсы Гэлмс і Крыстафэр Сьміт, якія пасьлядоўна выступаюць у абарону незалежнасьці й свабоды Беларусі. Трэба даводзіць усім іншым палітыкам, што без трывалай нацыянальнай асновы, на якой грунтуецца стабільнасьць і беспярашкоднае разьвіцьцё нацыянальных дзяржаваў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, Беларусь застанецца нестабільным дзяржаўным утварэньнем, крыніцай патэнцыйных канфліктаў у Эўропе. Асабліва моцна прысутныя выказаліся за адзінства, за яднаньне сілаў і намаганьняў усіх нацыянальных беларускіх сілаў і ўсіх, хто падтрымлівае незалежнасьць, свабоду і захаваньне нацыянальнай культуры незалежна ад палітычнай арыентацыі. Таксама было заяўлена аб неабходнасьці найшырэйшага далучэньня моладзі да працы ў беларускіх арганізацыях, аб аднаўленьні працы моладзевых арганізацыяў беларускай эміграцыі. У працы круглага стала ўзялі актыўны ўдзел намесьнік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык, старшыня БІНіМ Вітаўт Кіпель, старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелойць, старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі, журналіст Уладзімер Левін ды іншыя.

На другім круглым стале, які вялі сп. сп. Віктар Тур і Юрка Азарка, разглядаліся пытаньні актывізацыі дзеяньняў амэрыканскіх беларусаў другога пакаленьня, каардынацыя працы з сэнатарамі, кангрэсмэнамі й урадам ЗША.

Трэці круглы стол быў прысьвечаны пытаньням захаваньня й пераемнасьці беларускай культуры на эміграцыі, і яго вялі сп.сп. Серж Трыгубовіч і Ванкарэм Нікіфаровіч. Кіраўніком Сымпозыюму быў сп. Трыгубовіч, а вынікі дыскусіяў былі прынятыя за аснову для выпрацоўкі рэзалюцыяў 25-й Сустрэчы.

Увечары ўдзельнікі сабраліся ў Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры ў Саўт Рывэры на баль-сустрэчу. Забава з пачастункам, музыкаю трыё Казакоў і танцамі прайшла надзвычай удала.

1-га верасьня раніцою з удзелам Мітрапаліта Ізяслава прайшло набажэнства ў царкве Маці Божай Жыровіцкай у Гайланд Парку, якое азнаменавала яднаньне раней падзеленай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Тэма яднаньня і пераадоленьня супярэчнасьцяў паміж беларускімі арганізацыямі й паміж асобнымі людзьмі гучала і ў прамовах на ўрачыстым банкеце ў гатэлі "Гаят-Рыджэнсы". З уступным словам выступіў сп. Юрка Азарка, а потым сп-чня Вольга Казак засьпявала амэрыканскі гімн. Затым а. Вячаслаў Логін прамовіў малітву, а прысутны Мітрапаліт Ізяслаў асьвяціў сход. Ад Рады БНР з прамовай выступіла Старшыня сп-ня Івонка Сурвіла, ад БАЗА - сп. Антон Шукелойць, ад ЗБК - сп. Пётра Мурзёнак. Былі зачытаныя прывітаньні ад амэрыканскіх кангрэсмэнаў Фрэнка Палоўна і Крыстафэра Сьміта, а таксама ад сэнатара Джорджа Войнавіча, беларускіх дзеячоў у Канадзе Кастуся Акулы й Раісы Жук-Грышкевіч, старшыні БНФ Вінцука Вячоркі ды іншых. Далей з прамовамі выступілі ганаровыя госьці Сустрэчы зь Беларусі: гісторык і выдавец, рэдактар часапісу "Беларускі Гістарычны Агляд" сп. Генадзь Сагановіч і старшыня грамадзкага аб'еднаньня "Беларуская Перспэктыва" сп-ня Валянціна Трыгубовіч. Прысутныя з увагай выслухалі старшыню кліўлендзкага аддзелу БАЗА Пола Васілеўскага, заступніка старшыні Рады БНР Сяргея Навумчыка, старшыню Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямёна Шарэцкага.



*Прамаўляе Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць*

Пасьля банкету адбыўся канцэрт, падрыхтоўкай якога займалася сп-ня Ала Орса-Романо, у якім прынялі ўдзел трыё Казакоў у складзе Валянтыны Пархоменкі, Вольгі Казак і Алеся Казака, а таксама Валянціна Якімовіч, Ліда Кано, Уладзімер Гуткоўскі; ансамбаль з Таронта "Яваровы людзі", Ксеня Капытка, Ірына Мозылева.

У фае гатэлю была разгорнутая выстава жывапісу пэнзлю мастачкі сп-ні Валі Якімовіч.

За выдатнае арганізаваньне Сустрэчы падзяка належыць арганізацыйнаму камітэту ў складзе: Юркі Азаркі (старшыня), Янкі Азаркі, Алы Кузьміцкай, Алы Орса-Романо, Сержа Трыгубовіча, Віктара Тура, Антона Шукелойця, старшыня Пётры Мурзёнка.

*Віталь ЗАЙКА*



*Агульны здымак удзельнікаў Сустрэчы ў дзень закрыцьця.*

# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ НА ПАЧАТКУ НОВАГА ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ

## Выступ сп. Віталя Зайкі на банкеце на 25-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

Дастойнае сьвятарства, шаноўныя Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, Старшыня Антон Шукелойць, Старшыня Пётра Мурзёнак, спадарыні й спадары, сябры!

11 год таму, адбылося рэальнае аднаўленьне незалежнасьці Беларусі. Наш край, што сотні гадоў быў пад чужым панаваньнем, нарэшце атрымаў шанец свабоды й незалежнасьці. Для беларускага народу адчыніўся шлях у лепшую будучыню, у годнае самастойнае жыцьцё, у супольнасьць цывілізаваных эўрапейскіх народаў. 11 год таму край падняўся, стаў з марыянэткі-БССР дзяржавай, якая пачала сама вырашаць свой лёс, ствараць войска, адчыняць па сьвеце амбасады, выпускаць свае грошы, рэальна ўводзіць беларускую мову ў навуку, школу, справаводства. Тысячы й мільёны людзей з надзеяй глядзелі ў будучыню, спадзяваліся на ўзмацненьне і росквіт роднай мовы й культуры, на годнае жыцьцё, на падвышэньне дабрабыту.

Што яны маюць сёньня? Маюць яны нялюдзкае трактаваньне з боку дзяржавы, якую фактычна ў іх скралі; маюць вынішчэньне сваёй мовы, культуры й традыцыяў, а значыць - этнацыд; маюць эканамічны занапад і адзін з найніжэйшых у Эўропе ўзровень жыцьця; маюць зьмяншэньне колькасьці насельніцтва; маюць рэжым начале з супэр-злодзеям, які закладае чужынцам суверэнітэт і будучыню краю дзеля сваіх палітычных махлярстваў, які гандлюе лёсамі 10 мільёнаў людзей дзеля насычэньня прагі абсалютнай улады й звыш-багацьця.

Старая показка вядзе, што кожны народ варты свайго ўраду. Аднак ці варты гэтага зладзейскага ўраду шматпакутны народ, якому не давалі й не даюць перадыху кіруючыя колы вялізарнай суседняй краіны, што насадзілі паўсюль свой бачны і нябачны кантроль, моцна трымаюць лейцы эканамічнага ды палітычнага ўплыву, што падтрымліваюць пятую калёну з ілжэ-прэзыдэнтам начале мясцовых ворагаў беларускай незалежнасьці й свабоды. Ці шмат увагі й дапамогі сьвету бачыў гэты народ, ці часта было пра яго чуваць у сьвеце падчас самых драматычных хвілінаў нядаўняй гісторыі? Ці рупіліся пра яго так, як пра польскую "Салідарнасьць" у 1980-я гады, ці пра сэрбскую апазыцыю ў 1990-я? Усе мы ведаем, што не, не і не.

Але ўсё-ж ёсьць на сьвеце краіна, якая працягнула руку дапамогі, узьняла свой голас у абарону Беларусі. І мы сёньня маем гонар сабрацца тут, на зямлі гэтай самай краіны, пра якую я цяпер кажу. Гэтая краіна дала нам прытулак, права годна жыць і працаваць, гаварыць на сваёй мове, маліцца па-свойму ў сваіх, а не накінутых чужынцамі цэрквах. Дала магчымасьць працаваць дзеля нашай сёньня так далёкай, але апякаючай нашыя сэрцы, заўсёды прысутнай у нашых думках і марах Бацькаўшчыны. І я хачу падзякаваць кангрэсмэнам, прадстаўнікам амэрыканскміх уладаў, усім добрым людзям гэтае зямлі, за падтрымку і дапамогу. Вялікі ім дзякуй.

Між тым кожны з нас мусіць спытаць сябе, ці ўсё зрабілі і робім для Бацькаўшчыны, ці не засьцяць уласныя патрэбы й амбіцыі агульнай вялікай справы, ці ў той бок ідзем па адвечным беларускім шляху, ці годныя мы славы й памяці тых, што ішлі па гэтым шляху перад намі?

Мы маем усё, што патрэбна для таго, каб шлях гэты вывеў у лепшую, шчасьлівую, свабодную, беларускую Беларусь. Маем мільёны сьветлых ґаловаў, чыстых сэрцаў, мільёны рук, якія ведаюць сумленную працу. Маем вялікую, дасюль яшчэ не спасьцігнутую гісторыю, якую мусім вывучаць, ачышчаць ад чужацкай маны, каб вучыцца ў папярэдніх пакаленьняў змагароў, і каб пазьбегнуць паўтарэньня былых памылак.

МЫ ПЕРАМОЖАМ, але час - хіба самы каштоўны й незваротны рэсурс - мусіць быць скарыстаны аптымальна.

Беларускія сілы ў краі, а тым больш па-за краем, мусяць забыцца на спрэчкі й недавер, мусяць аб'яднаць свае высілкі, памятаць, што вольная Беларусь - перадусім, а рэшта будзе.

САЛІДАРНАСЬЦЬ мусіць зрабіцца сёньня самым галоўным словам.

Салідарнасьць неабходная і тут, у Амэрыцы. Безь яе мы проста згубімся, змарнуем дадзеныя гісторыяй шанцы, збочым з беларускага шляху. Усім нашым беларускім арганізацыям патрэбная каардынацыя, увага да галоўнага - карысьці беларускай справы. Салідарнасьць вымагае ахвярнасьці, выдаткаў грошай і часу. Будзем жа памятаць пра гэта. І зьвяртаючыся да маладзейшых, я заклікаю не чакаць, не глядзець убакі, спадзяваючыся што нехта возьме за руку і пацягне нешта рабіць. Старэйшыя нашыя сябры ахвярнай працай паказалі, што справа нам па сілах, што ўсе разам мы здольныя на ўчынкі й зьдзяйсьненьні, годныя тысячагадовай гісторыі нашай Бацькаўшчыны, годныя яе трываласьці ў пакутах і самаахвярнасьці сыйшоўшых пакаленьняў. Годныя ейнай вялікай - мы верым у гэта - вялікай і слаўнай будучыні.



На сцэне ўдзельнікі канцэрту.

# РОЛЯ ГІСТОРЫІ Ў ЖЫЦЬЦІ НАЦЫІ

## Прамова Генадзя Сагановіча на Банкеце на 25-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

Разважаючы пра ролю гісторыі ў жыцьці нацыі, цяжка быць арыгінальным - столькі ўжо пра гэта напісана і сказана! Таму абмяжуюся адно некалькімі яскравымі фактамі.

Яшчэ ў 1970-я гады вугорскія вучоныя ўзяліся сьпецыяльна дасьледаваць ролю гістарычнай сьвядомасьці ў нацыянальным адраджэньні народаў Усходняй Эўропы. Вывучалі вопыт практычна ўсіх народаў ад Нямеччыны да Расеі. І высновы дасьледаў моцна ўразілі: кожная гістарыяграфія, на якім-бы ўзроўні разьвіцьця яна не знаходзілася, лічыла сваёй задачай абуджэньне і ўмацаваньне нацыянальнай сьвядомасьці. Гісторыкі заўжды шукалі аргумэнты для вырашэньня актуальных палітычных задачаў свайго народу. І чым цяжэйшы быў яго стан, тым больш для яго адраджэньня выкарыстоўвалі мінулае.

З іншага боку, зусім нядаўна расейскія аналітыкі прызналіся, што на шляху асыміляцыі нерасейскіх народаў Расейскай Фэдэрацыі галоўная перашкодай ёсьць гістарычныя ўяўленьні, гістарычная памяць гэтых народаў.



Выступае ансамбаль “Яваровы людзі” з Таронта, Канада.

Шырока вядомы прыклад містыфікацыі мінулага чэскімі гісторыкамі, якія стварылі неіснавалыя хронікі для кансалідацыі свайго народу. Але мала хто ведае, як задоўга да гэтага ў Нідэрляндах фальшавалі нават надпісы на каменных надмагільлях, каб заручыцца падтрымкай гісторыі.

Узьдзеяньне мінулага на сучаснасьць нельга недаацэньваць - яно цісьне на нас і праз гены, і праз падсьвядомасьць, і асабліва праз веды - калі мінулае становіцца фактам сьвядомасьці. Яскравы прыклад можна прывесьці з антычнай гісторыі. Калі да маладой Грэцыі сталі набліжацца арміі агрэсыўнага Усходу, дык грэцкія лідары Салон і Пісістрат сабралі для народу песьні Гамэра, хронікі, ў якіх адбівалася гістарычнае мінулае грэкаў, і Эўропа неўзабаве пачула пра мужнасьць і адвагу грэкаў, пра Марафон, Фермапілы й Саламін!

Гісторыя - гэта вялікі рэсурс, і калі ён запатрабаваны, то дае грандыёзную энэргію. Вобразна кажучы, гэта зброя, якую можна параўнаць з атамам. Пра такую ролю гісторыі даўно ведалі тыя, што імкнуліся падпарадкоўваць народы сабе. У старажытнасьці лічылася, што чужая зямля толькі тады падпарадкуецца трывала, калі на ёй зьнішчаць або перайначваць усе помнікі - сьведкі ранейшага мінулага. Калі зьявілася пісьмовасьць, то кожная тэрытарыяльная анэксія дапаўнялася экспансіяй у гісторыю - праз перапісваньне яе. Таму што будучыня належыць таму, хто бярэ пад кантроль мінулае. І ў гэтым сэнсе паказальныя словы Хрушчова, які неяк сказаў: "Гэтыя гісторыкі - небясьпечныя людзі! Яны могуць усё папсаваць." Вось страх рэжыму перад гісторыяй!

У беларускай сытуацыі ўсё сказанае набыло асаблівую актуальнасьць. Мы добра разумеем, чаму пасьля ўсталяваньня рэжыму Лукашэнкі й расправы з нацыянальнай сымболікай - белчырвона-белым сьцягам і гэрбам "Пагоня" - новыя ўлады пачалі вайну зь беларускай гісторыяй. І першым полем гэтай вайны сталі школьныя падручнікі. У выніку захадаў цяперашніх уладаў Беларусь стала краінай-унікам: толькі ў нас дзяржава і нацыя - ня злучаныя, а разлучаныя; толькі ў нас гістарычная палітыка дзяржавы скіраваная не на сваё нацыянальнае адраджэньне, а на расейскія й савецкія фальсыфікаты, скіраваныя супраць гэтага адраджэньня. У Беларусі настаў голад на гістарычную кнігу, бо нацыянальнай кнізе, і ня толькі па гісторыі, нялёгка выйсьці ў сьвет, нялёгка прабіцца да чытача.

Штодня мы страчваем настолькі, наколькі не набываем сваёй уласнай гісторыі. Мысьленьне, аднак, немагчыма забараніць. Вырастае новае пакаленьне, што ня ведала савецкага таталітарнага ўціску й прамываньня мазгоў. Пасьля распаду Савецкага Саюзу ніколі не было яшчэ, як сёньня, так шмат моладзі, якая далучана да беларускай справы. Гэтай моладзі не хапае толькі "зброі" - сваёй гісторыі. І ў нашых сілах - выкаваць гэтую зброю.

# Беларусь за месяц

## РАЗБУРЫЛІ ЦАРКВУ

"Беларус" ужо паведамляў пра падзеі вакол дамавое царквы, якую будаваў Ян Спасюк у пасёлку Пагранічным на Гарадзеншчыне.

2-га жніўня, акурат на сьвята Ільліпрарока, храм паводле рашэньня Бераставіцкага райвыканкама зруйнавалі. У інтэрв'ю журналістам Спасюк заначыў, што БАПЦ у Беларусі ў хуткім часе адновіцца. "Зерне кінутае, і праз гады мы зьбяром нядрэнны ўраджай. А сёньня застаецца толькі цярпець". Беларуская тэлевізія і дзяржаўныя газэты вінавацяць Спасюка ў раскольніцтве і дзеяньнях у шкоду Беларускай Праваслаўнай Царквы, якая насамрэч зьяўляецца ўсяго толькі Беларускім экзархатам, падпарадкаваным Маскве.

## САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

У суботу 24-га жніўня ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры адбыўся агульны зьезд дзьвух беларускіх сацыял-дэмакратычных партыяў. Бралі ўдзел дэлегаты Беларускай партыі "Надзея" Валянціны Палевіковай, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, створанай у канцы 2001-га году зь ліку апанэнтаў БСДП "Народная Грамада" М. Статкевіча, старшынём якое стаў Аляксей Кароль.

На агульным зьезьдзе, прысутнічала больш за 160 дэлегатаў, Тут былі дэлегаты й Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, старшынём якое ёсьць Станіслаў Шушкевіч. Праўда, сам Шушкевіч не прысутнічаў, бо лічыць, што сацыял-дэмакраты Караля і Палевіковай павінны кааптавацца ў БСДГ. Агульны зьезд вырашыў аб'ядначца. Тым больш, што ў склад абеднанай партыі увайшоў Алег Трусаў, кіраўнік ТБМ, найбольшай нацыянальнай арганізацыі Беларусі.

Старшынём новастворанай партыі абраная Валянціна Палевікова, першым намесьнікам Аляксей Кароль. Партыя будзе мець назву Аб'яднаная сацыял-дэмакратычная партыя.

## ЛУКАШЭНКА ЗАПРАШАЕ ПАПУ

Падзеі ў Маскве, калі Лукашэнку прапанавалі пазбыцца суверэнітэту і губэрніямі ўвайсьці ў склад Расеі, моцна зьмянілі дзяржаўныя адносіны да незалежнасьці. Ужо і апытаньня БТ "выпадковыя мінакі" на менскіх вуліцах як адзін на чыстай беларускай мове кажуць пра абавязкавае захаваньне незалежнасьці (яшчэ паўгады таму яны казалі па-расейску амаль адваротнае). То Лукашэнка заяўляе, што нягледзячы на супэрнацыянапістычнасьць паасобных прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, іхняя думка для яго вельмі каштоўная і ён уважліва да яе прыслухоўвацца.

Лукашэнка таксама сказаў, што хоча, каб у Беларусь прыехаў Папа Рымскі ды сустрэўся з Маскоўскім патрыярхам Аляксіем ІІ. А РПЦ узяла і сапсавала сэнсацыю. Кажуць, візыт Аляксія магчымы, і супраць Папы ня супраць, толькі Ватыкан мусіць адмовіцца ад падтрымкі вуніі і празелітызму ў Расеі й ва Украіне. Адно незразумела, прычым Беларусь да Расеі й Украіны.

## МАРКЕВІЧУ І МАЖЭЙКУ ЗЬМЕНШЫЛІ ТЭРМІН

15-га жніўня адбыўся разгляд скаргі гарадзенскіх журналістаў Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Судовая калегія, пакінула бязь зьменаў прысуд, але выкарыстала пункт 9 закону аб амністыі ды зьменшыла тэрміны пакараньня на адзін год. Цяпер Маркевіч мае 1,5 гады абмежаваньня волі ("хіміі"), а Мажэйка - год хіміі.

29-га жніўня суд вызначыў месца адбыцьця пакараньня. Маркевічу загадалі пасяліцца ў Асіповічах, а Мажэйку ў Жлобіне.

Звычайна асуджаныя застаюцца у той вобласьці, дзе жылі. Журналістаў-жа адправілі на ўсход Беларусі, відаць, каб сваякі не адведвалі часта.

## СУДЗЯЦЬ ІВАШКЕВІЧА

Суд над галоўным рэдактарам газэты "Рабочы" пачнецца 11-га верасьня. Яго вінавацяць у зьнявазе і паклёпе на А. Лукашэнку. Гэта пагражае пазбаўленьнем волі тэрмінам да 5 гадоў.

Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў 9-га верасьня 2001-га году ў спэцвыпуску газэты быў зьмешчаны матарыял пад назвай "Злодзей мусіць сядзець у турме". У артыкуле распавядалася пра велізарныя эканамічныя злачынствы, да якіх меў адносіны Лукашэнка. Дарэчы, той нумар, да падпісчыкаў ня трапіў, бо яго цалкам канфіскавалі.

Цяпер будзе суд. У рэчышчы асуджэньня Маркевіча і Мажэйкі Івашкевічу цяжка чакаць нечага добрага.

Журналісты адзначаюць, што дзень суда наўмысна прызначылі на 11-га верасьня, каб увага сусьветнай грамадзкасьці была адцягнутая ад Беларусі й прыкаваная да леташніх падзеяў у ЗША.

## ЛЁС "НАШАЙ СВАБОДЫ"

2-га жніўня суд Маскоўскага раёну Менска задаволіў пазоў старшыні Камітэту дзяржкантролю Анатоля Тозіка да газэты "Наша свабода" і ейнага журналіста Міхаіла Падаляка. Тозік вінаваціў газэту ў тым, што тая надрукавала артыкул М. Падаляка, які ганьбіў яго дзелавую рэпутацыю, зьняважыў гонар і годнасьць.

Суд прызнаў, што зьвесткі, пададзеныя журналістам не адпавядаюць сапраўднасьці ды абавязаў газэту выплаціць 100 млн. рублёў ($55 тыс), М. Падаляку - 5 млн. ($2,5 тыс.)

На просьбу Анатоля Тозіка грошы мусяць пералічыць на будаўніцтва вясковай бальніцы на Піншчыне.

Вялікі штраф спыніў выхад горыядычнага выданьня. Журналісты толькі выпусьцілі нумар, які распавядаў пра суд над газэтаю.

Напрыканцы жніўня Павал Жук абвясьціў, што газэта прыпыняе свой выхад, бо арыштаваньня рахункі, і немагчыма аплаціць паслугі друкарні. Галоўны рэдактар заклікаў людзей, чытаць "Нашу свабоду" ў сеціве, але там навіны апошнім разам абнаўляліся 24-га траўня.

## ТЫДНЁВІК "НОВЫ ЧАС"

Таварыства беларускай мовы зрабіла новы праект, выдаўшы газэту "Новы час". 16-бачынавая газэта мусіць у перспэктыве выдавацца раз на тыдзень і знаёміць чытача з навінамі беларускай культуры, жыцьцём інтэлігенцыі ды іншымі надзённымі пытаньнямі. Галоўны рэдактар Кастусь Тарасаў, які быў намесьнікам галоўнага рэдактара ўжо былой "Нашай свабоды". Газэта абяцае быць цікавай.

## КОЗІК УЗЯЎ РЭВАНШ

Галоўны рэдактар газэты "Беларускі час" Аляксандар Старыкевіч быў звольнены са сваёй пасады загадам Л. Козіка (адбылася гэта падзея 8-га жніўня). На сустрэчы з калектывам газэты Козік параіў журналістам быць бліжэй да народа і не займацца палітыканствам.

## КАСЬЦЯН СЫШОЎ

Сяргей Касьцян падаў у адстаўку з пасады кіраўніка голдынгу "Літаратура і мастацтва", сыходзіць і Таіса Бондар - кіраўнічка выдавецтва "Всемирная литература". Кажуць, што Касьцян прызначыў кіраўніком "Всемирной литературы" Міраслава Адамчыка, брата Адама Глёбуса, і цяпер выдавецтва будзе звацца "Сусьветная літаратура" і арыентавацца на школьныя патрэбы, перакладаючы на беларускую мову творы сусьветнай клясыкі.

## МАНЭТЫ Ў ГОНАР ДАМЕЙКІ

Нацыянальны банк Беларусі адбіў памятныя манэты ў гонар Ігната Дамейкі наміналам у 20 і 1 рубель. На рэверсе - выява І. Дамейкі, а таксама рэльефная выява геалягічнага малатка, а таксама ўстаўка з каменя дамейкіта і яго хімічная формула

## ЗАЧЫНЯЮЦЬ КІНАТЭАТАР

Зачыняюць менскі кінатэатар "Зьмена". Кажуць, што нерэнтабэльны.

Між тым, творчая інтэлігенцыя мяркуе, што зачыняюць яго з-за таго, што кінатэатар быў цягам апошніх гадоў асяродкам беларушчыны. Тут дэманстраваліся беларускія кінастужкі, у тым ліку і "Дарога на Курапаты", а таксама ладзіліся сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй.

## ІСПЫТ "БЕЛАГА ЛЕГІЁНУ"

25-га жніўня патрыятычная арганізацыя "Белы легіён" зладзіла для сваіх сябраў іспыты на атрыманьне "Сталёвага бэрэту". Іспыты былі нялёгкія: трэба было прабегчы 30 кілямэтраў, 3 кілямэтры кросу, выканаць фізычныя практыкаваньні. У выніку шэсьць сябраў арганізацыі атрымалі ганаровыя ўзнагароды.

## ФЭСТ У БУДСЛАВЕ

Ужо ў другі раз ў Будслаўскім касьцёле праходзіць ня толькі ведамы фэст 2-га ліпеня, але ладзіцца яшчэ адзін – на сьвята Ўнебаўзяцьця Маці Божай (15-га жніўня), у гонар чаго названы касьцёл. Падзеі пачынаюцца ходам са сьвечкамі вакол парку, ночы няспаньня ў касьцёле. Раніцою ладзяць ход са станцыі Будслаў да касьцёла і ўсю дарогу пяюць песьні ў гонар Маці Божай Будслаўскай.

Найбольш вернікаў было са свае парафіі й суседніх, але ўжо пачынаюць прыязджаць і здалёку. У будучым зьбіраюцца пашыраць ведамасьць жніўеньскага фэсту, каб зьбіраліся людзі з розных куткоў Беларусі.

## ХРЫСЬЦІЯНСКІ ЛЕТНІК

У Занарачы на Мядзельшчыне два тыдні праходзіў міжнародны хрысьціянскі маладзёвы летнік. Ідэя такога летніка зьявілася некалькі гадоў таму у каталіцкага біскупа зь Нямеччыны доктара Хамайера, каб зьбіраць моладзь з розных краінаў сьвету. Летнік у папярэднія гады ладзіўся ў розных краінах Усходняй Эўропы. І вось сёлета ўпершыню ён прайшоў у Беларусі. Занарач сабрала каля двухсот чалавек зь Беларусі, Нямеччыны, Летувы, Украіны, Румыніі, Сэрбіі, Баўгарыі.

Моладзь працавала на дабраўпарадкаваньні новае царквы, паставілі агароджу, зрабіла сходы да храма. Нароўні з усімі працаваў і 73-гадовы біскуп.

Адметнасьць летніка ў тым, што сабраліся ў ім і праваслаўныя, і каталікі, і вуніяты. Дзень пачынаўся і завяршаўся агульнаю малітваю у паходным храме - разам былі вернікі розных канфэсіяў.

*Уласны карэспандэнт*

# АБ КАНКРЭТНЫХ ДЗЕЯНЬНЯХ. ПЕРШЫ ЧЫН

Небясьпека над беларускай незалежнасьцю навісла з 1994-га году. Цяпер, пасьля грубых заяваў Масквы пра пляны анэксіі Беларусі, гэтая небясьпека набывае агрэсіўныя формы.

***Галоўнай першачарговай задачай для беларускага грамадзтва ёсьць абарона суверэнітэту і незалежнасьці Беларусі, змаганьне супраць расейскае агрэсіі.***

Беларусы ва ўсім сьвеце мусяць выступіць адзіным фронтам у абароне незалежнасьці нашае дзяржавы. Змагаемся ўсюды, дзе мы ёсьць: ад глухога беларускага мястэчка да Менску, ад Менску да Нью-Ёрку, Отавы, Парыжу, Лёндану і Сыднэю. Жыве нашае беларускае Адраджэньне, жыве Рада БНР, жыве Беларусь!

Асноўай змаганьня супраць расейскай агрэсіі й прарасейскага акупацыйнага рэжыму ёсьць Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

Палажэньні артыкула 1-га Канстытуцыі абавязваюць нас стаць на абарону нашай краіны перад пагрозай расейскай акупацыі.

*"Артыкул 1. Рэспубліка Беларусь – унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава.*

*Рэспубліка Беларусь валодае вярхоўнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыцьцяўляе ўнутраную і зьнешнюю палітыку.*

*Рэспубліка Беларусь абараняе сваю незалежнасьць і тэрытарыяльную цэласнасьць, канстытуцыйны лад, забясьпечвае законнасьць і парадак."* (арт.1)

*"Не дапускаецца заключэньне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі"*, - гаворыцца ў артыкуле 8.

*"Тэрыторыя Беларусі адзіная і неадчужальная"*, - вызначае артыкул 9.

*"Абарона Рэспублікі Беларусь – абавязак і сьвятая доўг грамадзяніна Рэспублікі Беларусь"*, - сказана ў артыкуле 57.

Рэспубліка Беларусь зьяўляецца сябрам Арганізацыі Абедняных Нацыяў і мае права на міжнародную падтрымку супраць агрэсара.

Цяпер, калі Масква адкрыта аб'явіла пра плян і тэрмін захопу Беларусі, у той час, калі рэжым узурпатара Лукашэнкі здрадзіў беларускаму народу і Беларускай дзяржаве, стаў выканаўцам расейскіх захопніцкіх плянаў, справу абароны дзяржавы ад зьнешняй агрэсіі, у адпаведнасьці з Канстытуцыяй, павінен узяць у свае рукі беларускі народ на Бацькаўшчыне і ва ўсім сьвеце (куды вымушана закінуў беларусаў лёс і прывяло змаганьне з расейскім імпэрыялізмам).

Першыя крокі мусяць быць зроблены ў Рэспубліцы Беларусь.

З мэтай абароны ад расейскай агрэсіі паўсюдна (у гарадах, раёнах, вёсках, на прадпрыемствах, ва ўстановах) ствараюцца ***грамадзкія Камітэты па абароне ад расейскай агрэсіі (Камітэты па абароне).***

**ПРАГРАМА ДЗЕЙНАСЬЦІ КАМІТЭТАЎ:**

- адсочваньне дзеяньняў і кантроль за антыканстытуцыйнай дзейнасьцю чыноўнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, навучальных установаў, камандзіраў вайсковых фармаваньняў, сродкаў масавай інфармацыі;
- папярэджваньне аб крымінальнай адказнасьці асобаў, якія праводзяць яўную або ўскосную антыканстытуцыйную дзейнасьць, накіраваную на ліквідацыю незалежнасьці й суверэнітэту Беларусі, на асіміляцыю маладога беларускага пакаленьня, на зьняважу нацыянальнага гонару і годнасьці беларусаў, на дыскрымінацыю беларускіх нацыянальных каштоўнасьцяў;
- інфармаваньне грамадзянаў пра сутнасьць і небясьпеку для беларусаў хлусьлівай прапаганды пра "шчасьлівую будучыню" у так званай "саюзнай дзяржаве" пад крамлёўскім кіраўніцтвам;
- інфармаваньне беларускага грамадзтва пра неабходнасьць ігнараваньня любых выбараў і рэфэрэндумаў, арганізаваных рэжымам;
- інфармаваньне грамадзянаў, якіх рэжым уцягвае ў свае нібыта "выбарчыя" арганізацыі й "выбарчыя" мерапрыемствы, пра адказнасьць перад дзяржавай Рэспубліка Беларусь і беларускім народам за супрацоўніцтва з акупацыйным рэжымам на карысьць іншаземнай дзяржавы (Расеі);
- інфармаваньне беларускага грамадзтва пра неабходнасьць правядзеньня новых выбараў прэзыдэнта Беларусі пад міжнародным прагэктаратам (без удзелу Расеі як агрэсіўнай краіны);
- інфармаваньне грамадзянаў пра неабходнасьць стварэньня на месцы жыхарства і на прадпрыемствах *Камітэтаў самакіраваньня*, грамадзкіх ворганаў *аховы парадку і самаабароны*. Спрыяньне і дапамога ў іхнай арганізацыі.

Беларусам неабходна згуртавацца. Мы павінны пазнаваць адзін аднаго паўсюдна, дзе-б мы ні былі. Трэба гаварыць па-беларуску, насіць і карыстацца нашай сымболікай.

Усім беларусам трэба памятаць пра падступнасьць расейскай агрэсіі й маскоўскага пляну захопу нашай тэрыторыі. Яны прагаварыліся (Селязьнёў, Вішнякоў і іншыя), што стварэньне "саюзу" Беларусі з Расеяй было-б першым этапам на шляху да анэксіі. Тады (пасьля заганяньня ў "саюз") захапіць Беларусь ім было-б ужо лягчэй.

Мы павінны быць цьвёрдымі ў абароне сваёй жыцьцёвай прасторы, сваёй культуры, спадчыны, дзяржавы й незалежнасьці.

Мы мусім заўсёды даваць рашучы адпор нахабству, хамству, варварству акупантаў, чужой агентуры, якая быццам-бы "разважае", што, маўляў, яны ня супраць незалежнасьці, але за "саюз" з Расеяй. Нельга дазваляць антыбеларускую агітацыю.

Трэба брацца за працу і рыхтавацца да змаганьня.

*Зянон ПАЗЬНЯК*
*Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"*

# ДА ГІСТОРЫІ СУСТРЭЧАЎ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

Сёлетняя 25-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адзначае 50-я ўгодкі такіх Сустрэчаў. Пачаліся яны 5-6 ліпеня 1952-га году ў Канадзе над вадаспадам Ніягара. Гісторыя паўстаньня іх была такая: Вінцэнт Жук-Грышкевіч, што прыехаў у Канаду ў студзені 1950-га году, ведаў, што ў ЗША жыве шмат ягоных сяброў зь Вільні й Прагі ды ягоны дваюрадны брат інж. Часлаў Ханяўка. Нікога зь іх ён ад 30-га верасьня 1939-га году, калі бальшавікі яго арыштавалі й вывезьлі ў канцэнтрацыйныя лягеры Варкуты, ня бачыў. Прагнуў надта зь імі зноў сустрэцца. У лістох да іх прапанаваў наладзіць спатканьне. З гэтай мэтай ён зьвязаўся з Арганізацыяй Беларускай Моладзі (АБМ) ў ЗША, старшынём якое быў Міхась Тулейка. Дамовіліся, што ЗБК і АБМ зарганізуюць Сустрэчу Беларусаў у Канадзе.

Наступным заданьнем было знайсьці адпаведнае месца на Сустрэчу. Найлепей адпавядаў-бы на гэта, мяркаваў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, нейкі летні рэзорт у цікавай і прыгожай мясцовасьці ды недалёка ад мяжы ЗША. (У 1952-м годзе мы яшчэ ня мелі свайго беларускага дому ў Канадзе.) У рэзорце была-б магчымасьць затрымацца ўдзельнікам Сустрэчы , ды было-б месца - заля ці пляц - на сход, імпрэзы. Запасіўшыся мапамі, якія любіў студыяваць, каб пазнаваць і арыентавацца ў ваколіцы, інфармацыямі пра летнія рэзорты ды аўтобуснымі раскладамі, выбраўся ён з аўтаркаю гэтых радкоў у падарожжа.

Аўтобусам пад'ехалі мы да пэўнага месца, а далей пехатою да заплянаванага загадзя аб'екту. Нахадзіўшыся да мленьня ног, мы знайшлі рэзорт з чыстымі катэджамі, вялікай плошчай пляцу для сходу, маляўніча паложаным над Вэлянд каналам, недалёка вадаспаду Ніягара і мяжы ЗША. Такіх падарожжаў Вінцуку давялося зрабіць некалькі, каб дасьледаваць не адзін аб'ект і выбраць найбольш адпаведны.

**1-я Сустрэча** Беларусаў Канады й ЗША адбылася 5-6-га ліпеня 1952-га году на канадыйскім баку вадаспада Ніягара над Вэлянд каналам. І гэтак запачаткавала яна добрую традыцыю.

1-я Сустрэча была прысьвечаная Янку Купалу - 70-м угодкам ад ягонага нараджэньня і 10-м ад трагічнае ягонае сьмерці. Ключавы даклад на тэму "Янка Купала як чалавек і грамадзкі дзеяч" меў Вінцэнт Жук-Грышкевіч, ініцыятар, адзін з галоўных арганізатараў 1-й Сустрэчы. Ягоная й была ідэя прысьвяціць Сустрэчу памяці Янкі Купалы. На Сустрэчы прысутнічалі такія выбітныя асобы, як прадстаўнік ураду БНР у ЗША сп. Ян Чарапук-Змагар, што жыў тады ў Чыкаго; паэтка Натальля Арсеньнева і ейны муж генэрал Франьціш Кушаль, што жылі ў Нью "рку; сьпявачка зь Менску, што так хораша выконвала беларускія народныя песьні; др. Баляслаў Грабінскі - віляньчук; інж. Мікола Гарошка, калісь студэнт у Празе; старшыня АБМ Міхась Тулейка; Васіль Русак; праўнік Леанід Галяк - віляньчук; сям'я Ханяўкаў; Рамукі з Чыкага і шмат іншых. Паводле Камунікату Галоўнае Ўправы ЗБК ад 24-га студзеня 1953-га году ў Сустрэчы прыняло ўдзел па-над 120 беларусаў з абедзьвюх краінаў.

Уся багатая праграма Сустрэчы - даклады, прамовы, мастацкая частка, адведваньне вадаспаду Ніягара, увечары купальскае (хоць і ў ліпені) вогнішча над ракою зь песьнямі й вянкамі на вадзе - усё адбывалася пад адкрытым небам. А ліпеньскае канадыйскае неба было яснае, прывітлівае да беларускіх выгнанцаў зь іхняе "сінявокае Беларусі".

**Другая Сустрэча** Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбылася ў Таронта ў верасьні 1956-га году. Мы, Згуртаваньне Беларусаў Канады, ужо мелі свой беларускі дом на Дандас 1000 у Таронта, але галоўная частка Сустрэчы адбывалася на Цэнтральным востраве, што на возеры Антарыё каля Таронта. Ехалі мы туды параплавам. Там на вялікай плошчы ў цяні дрэваў айцец Міхась, пазьней Мітрапаліт БАПЦ Ўладыка Мікалай, адправіў урачыстую Божую службу. Пяяў вялікі, бо й сустрэча была надта людная, хор. Тады мы, канадыйскія беларусы, ды й уся канадыйская зямля першы раз чулі велічны, што ад сотні грудзей узносіўся да неба, беларускі гімн "Магутны Божа". Пяяла яго й прысутная на сустрэчы аўтарка Натальля Арсеньнева.

**5-я Сустрэча** адбылася ў Таронта ў 1962-м годзе. Тады мы ўжо мелі ад 1959-га году Беларускі рэлігійна-грамадзкі цэнтар (БРГЦ) на Сант Клярэнс у Таронта. У той час Саветы праводзілі вострую кампанію "за вяртаньне на Радзіму". Вінцэнт Жук-Грышевіч меў даклад на тэму "Мы ня вернемся пад савецкую акупацыю". У часе гэтае Сустрэчы было шмат дакладаў. Між імі памятаю даклад доктара Янкі Станкевіча. Трэба адзначыць, што ўсе Сустрэчы апрача першае арганізавала ЗБК і БАЗА.

Памятнаю і велічнаю была **10-я Сустрэча** 2-4 верасьня 1972-га году ў Таронта, прысьвечаная 90-м угодкам ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа ды 450-м угодкам друку на беларускай зямлі. Адкрыцьцё Сустрэчы адбылося ў суботу а 3-й гадзіне папаўдні ў Беларускім рэлігійна-грамадзкім цэнтры. Цэнтрам дэкарацыі залі быў вялікі, з 90 белых і чырвоных гваздзікаў букет у гонар 90-х угодкаў Янкі Купал й Якуба Коласа. На сьценах залі была выстава абразоў Івонкі Сурвіллы. У часе адкрыцьця Сустрэчы былі прачытаныя даклады: "Ад Скарыны праз Купалу й Коласа да нашых дзён" праф. Антона Адамовіча, "450 год друку на беларускай зямлі" др. Вітаўта Тумаша, "Дзейнасьць клюбу "Пагоня" Кастуся Акулы, "Як арганізаваць Сустрэчы, каб усе былі задаволеныя" др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Увечары ў залі цэнтру была супольная вячэра, а потым Баль-Сустрэча. У нядзелю, 3-га верасьня, урачыстая Божая служба ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ і пасьля яе супольны абед у залі цэнтру. А 3.30 папаўдні ў вялікай аўдыторыі Цэнтральнае Тэхнічнае школы адбыўся ўрачысты сход Сустрэчы з дакладамі др. Ст. Станкевіча пра Янку Купалу і праф. А. Адамовіча пра Якуба Коласа; прывітальныя прамовы старшыняў: Згуртаваньня Беларусаў Канады др. Раісы Жук-Грышкевіч і БАЗА сп. Расьціслава Гарошкі. У канцы быў канцэрт.

У 8.30 вечара - сяброўская вечарына ў залі БРГЦ у Таронта. У панядзелак - сьнеданьне ў БРГЦ і разьвітаньне.

**13-я Сустрэча**, што адбылася на пачатку верасьня 1978-га году ў Таронта, Канада, прыпадала на 61-я ўгодкі Першага Беларускага Кангрэсу ды 60-я ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч у сваёй прывітальнай прамове гаварыў аб цяжкім шляху, які мусіла прайсьці Рада і Ўрад БНР за 60 гадоў, аб патрэбе нашага безупыннага змаганьня за ўзнаўленьне незалежнасьці БНР. "Галоўнае наша заданьне наперадзе" - сказаў у канцы свае прамовы Старшыня Рады БНР.

**18-я Сустрэча** 3-5-га верасьня 1988-га году ў Таронта была важная тым, што на трэці яе дзень удзельнікі Сустрэчы зрабілі паломніцтва ў Прошчу паўночнаамэрыканскіх пакутнікаў, у Martyr's Shrine in Midland Ontario, дзе 5-га верасьня 1988-га году адбылося ўрачыстае асьвячэньне БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА, узьнесенага беларусамі замежжа пад кіраўніцтвам старшыні Рады БНР др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча і Старшыні ЗБК др. Раісы Жук-Грышкевіч на 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі. Урачыстасьць асьвячэньня крыжа правозіў а. Аляксандар Надсон, апостальскі візытатар для беларусаў замежжа зь Лёндану, Ангельшчына.

**21-я Сустрэча** 3-5-га верасьня 1994-га году ў Таронта была адметная тым, што на ёй былі выдатныя госьці зь Беларусі: Старшыня ЗБС "Бацькаўшчына" праф. Радзім Гарэцкі, Старшыня Вялікай Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач, фатограф Анатоль Кляшчук зь Менску ды шмат іншых. На трэці дзень Сустрэчы, 5-га верасьня, удзельнікі яе ўлучна з гасьцямі зь Беларусі зрабілі паломніцтва, ужо шостае`з чаргі да БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА ў прошчы Martyr's Shrine in Midland Ontario. Пасьля ўрачыстасьцяў ля Памятнага Крыжа сп-ня Ганна Сурмач ахінула Крыж слуцкім поясам. Праф. Радзім Гарэцкі выказаў беларусам Канады прызнаньне: "Вы зрабілі вялікую справу!" Вялікую тым, што ўзьнесьлі ў прашчу Беларускі Памятны Крых з мэмарыяльнаю таблiцаю з надпісам ў ангельскай і беларускай мовах ды тэкстам першае і апошняе строфкі гімну "Магутны Божа", зрабілі беларускія малітоўныя карткі для сьвятыні прошчы ды што арганізуюць штогодзня паломніцтвы да Беларускага Крыжа. Робім усё магчымае, каб жыла БЕЛАРУШЧЫНА.

*Раіса Жук-Грышкевіч*



*Група ўдзельнікаў дыскусіі за адным з круглых сталоў у першы дзень 25-й Сустрэчы.*




# Весткі й Паведамленьні

нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Viestki j Paviedamlenni
Belarusan American Association, Inc.
166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://belam.cjb.net №9 (439)


# ЖНІВЕНЬСКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

У суботу 10-га жніўня прайшоў чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА ў памяшканьні Фундацыі Крэчэўскага. Госьцем аддзелу быў Старшыня Камітэту Паняволеных Народаў сп. Хорст Уліх з сп-няй Эвай Уліх. Сп. Уліх у сваёй прамове падзякаваў Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню за актыўны ўдзел у мерапрыемствах Тыдню Паняволеных Народаў і перадаў нашай арганізацыі прывітальны ліст, дасланы Прэзыдэнтам Джорджам Ў. Бушам у Камітэт Паняволеных Народаў. Сп. Хорст Уліх адзначыў, што Камітэт уважае БАЗА за найбольш актыўную арганізацыю ў ягоным складзе, удзячны за актыўную падтрымку і лічыць, што прывітальны ліст ад Прэзыдэнта ЗША па праву належыць беларускай арганізацыі.

Сп. Уліх таксама падкрэсьліў, што высакародная справа змаганьня за волю і незалежнасьць патрабуе ня толькі высілкаў народу, які змагаецца супраць замежнага панаваньня, адкрытага ці прыхаванага. Гэтая справа вымагае таксама падтрымкі й салідарнасьці ад іншых народаў Эўропы ды іхных арганізацыяў у ЗША, якім ў свой час была працягнутая рука дапамогі народаў Вольнага Сьвету, і перш за ўсё амэрыканскага народу.

Сп. Уліх зачытаў ліст падзякі БАЗА ад імя Камітэту, а пасьля гэтага - прывітальны ліст ад Прэзідэнта, у якім у прыватнасьці гаворыцца, што Беларусь, як адзіная несвабодная пакуль краіна Эўропы, выклікае заклапочанасьць ЗША, а змаганьне яе народу за свабоду, незалежнасьць і дэмакратыю мае падтрымку і сымпатыю амэрыканскага ўраду і народу Злучаных Штатаў. Прысутныя апладысмэнтамі прывіталі сп. Хорста Уліха і словы падтрымкі ад Прэзыдэнта ЗША.

Затым старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка азнаёміў прысутных з асноўнымі падзеямі ў Беларусі або зьвязанымі з Беларусьсю, за апошні месяц.

Затым слова ўзяў сп. Антон Шукелойць, старшыня Галоўнай управы БАЗА, які распавёў пра важнасьць удзелу ўсіх сяброў аддзелу ў 25-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, коратка спыніўшыся на мэтах і значэньні гэтага форуму беларусаў Заходняе паўкулі.

Сп. Шукелойць таксама падкрэсьліў, што ад тых людзей, хто атрымаў падтрымку і дапамогу БАЗА ў справе палітычнага прытулку ў ЗША, вымагаецца адпаведная падтрымка грамадскай і палітычнай дзейнасьці арганізацыі, адною з праяваў якой ёсьць падрыхтоўка і правядзеньне 25-й Сустрэчы.

Прысутныя мелі нагоду пазнаёміцца з новымі людзьмі, што прыйшлі на сход, пачуць аб'явы й паведамленьні, сустрэцца зь сябрамі й знаёмымі.

**Віталь Зайка**



*На здымку: Старшыня Галоўнай Управы БАЗА Антон Шукелойць, Старшыня Камітэту Паняволеных Народаў Хорст Уліх і Старшыня нью ёрскага аддзелу БАЗА Віталь Зайка.*

**Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:**

**Складкі:**

А. Казлоўскі .........30 Я. Сіманюк .........30
А. Лістоўская ........30 Усім шчыры дзякуй!

**На БелПом:**

А. Міцкевіч .........20 М. Клакоцкі .........10

**Усе ўплаты ў аддзел дасылайце скарбніку аддзелу на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на Belarusan American Association.*
**Ахвяраваньне на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя A. Mickievic*

# ЗАЯВА РАДЫ БНР
## АБ ПАГРОЗЕ АНЭКСІІ БЕЛАРУСІ

Апошнія выказваньні прэзыдэнта Расеі Ўладзімера Пуціна адносна інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі пры фактычнай страце ўсіх атрыбутаў незалежнасьці знаходзяцца па-за межамі агульпрынятых нормаў міжнародных дачыненьняў.

Нават калі словы расейскага прэзыдэнта тлумачацца жаданьнем пазбавіць улады Лукашэнку, якога Расея дасюль падтрымоўвала насуперак пазыцыі дэмакратычных краінаў Захаду, яны выклікаюць вялікую трывогу: беларускі народ не павінен расплочвацца за дзеяньні Лукашэнкі правам на свабоду і незалежнасьць.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі бачыць у заявах Крамля гвалт над годнасьцю беларускага народу і ягонаю воляю, выяўленай ім у Канстытуцыі 1994-га году жыць у сваёй уласнай і суверэннай дзяржаве.

Мы заклікаем усе палітычныя партыі й рухі Беларусі ўсьведаміць сабе небясьпеку і выступіць у абарону нацыянальных каштоўнасьцяў, якія былі здабытыя пакаленьнямі нашых продкаў і павінны быць захаваныя для нашых нашчадкаў.

Рада БНР заклікае ўсе беларускія арганізацыі ў замежжы ўсімі магчымымі сродкамі й шляхамі дапамагаць змагарам за Незалежнасьць і Волю Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла**
**Старшыня Рады БНР**
*Атава, Канада, 15-га жніўня 2002-га году*

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 14-га ВЕРАСЬНЯ 2002-га ГОДУ А 7-й ГАДЗІНЕ ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ ПЁТРЫ КРЭЧЭЎСКАГА ПА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

**Калі Вы хочаце набыць беларускі пераклад БІБЛІІ для сваіх знаёмых ці сваякоў у БЕЛАРУСІ, калі ласка, зьвяртайцеся да СЯРГЕЯ СЁМУХІ. Тэлефон ў Менску 8-029-613-1379, электронная пошта: *serdgio_sema@mail.ru***

# ВЕЛІЧ І ЛЮБОЎ

Першы Ярарх БАПЦ, Мітрапаліт Мікалай, памёр 20-га чэрвеня, а ў суботу 23-га ў Таронта разьвіталіся зь ім паніхідай у нашай мясцовай сьвятыні парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага, ягоным прастолам блізу паўстагодзьдзя.

Нас зь сем'ямі, сяброў парафіі дый іншых вернікаў рупіла пытаньне: а што далей, як-жа без галоўнага Першага Ярарха? Дзе шукаць помач?

І тады, быццам нехта плянаваў нам памагчы, зь Менску поштай зьявіліся дзьве газэты: "Наша Ніва" і "Наша Свабода", абедзьве з датай выхаду 28-га чэрвеня.

Абедзьве паведамлялі, што нібыта адбыўся ў Гайленд Парку Сабор БАПЦ. Нам было раней ведама, што Мітрапаліт Мікалай адлучыў япіскапа Аляксандра Салагуба за "бясправўнае прысваеньне ўлады". А таго хапала, каб мы ў нядзельных літургіях у Таронта выключалі яго заўсёды зь ярархаў БАПЦ...

Сьвятар Ян Спасюк некалі прыяжджаў у Таронта, апавядаў пра ягоныя, быццам, намаганьні пашырыць БАПЦ у Беларусі, дзе ўжо ёсьць нібыта 70 парафіяў, якія чакаюць ад нас помачы; тут-жа ён падзякаваў прысутным за сабраныя на яго помач канадыйскія даляры.

Весткі зь менскіх газэтаў, інсьпіраваныя, "япіскапам Салагубам", зьбянтэжылі нас. Ужо пасьля з надрукаванага ў "Нашай Ніве" за 5-га ліпеня "Выясьненьня" Першага Ярарха БАПЦ Мітрапаліта Мікалая пра тое, што сапраўды адбылося, цытуем: "япіскап Аляксандар Салагуб, адлучаны 26-га студзеня 2002-га году ад БАПЦ за бясправўнае прысваеньне ўлады".

Салагуб у інтэрв'ю Радыё Свабода 25-га траўня 2002-га году сказаў:"Айцец Ян Спасюк маім указам быў прызначаны кіраўніком справаў БАПЦ у Беларусі з шырокімі паўнамоцтвамі".

У "Нашай Свабодзе" артыкул "Рэвалюцыя ў аўтакефальнай царкве" ("рэвалюцыя" - гэта-ж ня хаханькі, што там дзееца!) паведамляе: "Айцец Ян Спасюк у нашай гутарцы патлумачыў, што БАПЦ мела ў ЗША мала прыходаў. Аднак, паводле амэрыканскіх законаў, царква мае ўсялякія падаткавыя палёгкі. Яна мае права праводзіць розныя забаўляльныя мерапрыемствы, нават розыгрышы лятарэі. Прыбыткі ад гэтага былі вялікія. Аднак гэтыя грошы не выдаткоўваліся на царкоўныя патрэбы".

Куды-ж яны пайшлі? Сьвятар Спасюк ведае пра вялікія "прыбыткі", але... Гэтую галоўную хлусьню двух прагавітых рэвалюцыянераў варта разгледзець.

У ЗША і Канадзе няма дзяржаўных канфэсыяў. ¨сьць палёгкі падаткаў на грошы дабрачынных ахвяраў. Даволі папулярнае, з улікам грашовых прыбыткаў на ХАРЫТАТЫЎНЫЯ мэты, ёсьць БІНГО (латок, а не лятарэя). Даход з бінго парафіі й рэлігійнай арганізацыі, якія маюць ад уладаў дазвол, выдаюць на пабудовы сьвятыняў і праграмы помачы людзям. Гэтак даходы зь бінго ў нашай парафіі БАПЦ у Клîўлендзе пайшлі на пабудову царквы Божай Маці Жыровіцкай.

Харытатыўная дзейнасьць нашай таронцкай парафіі хіба найбольш ведамая ў Беларусі жыхарам краіны пацярпелым ад Чарнобыльскай аварыі.

Дзякуючы нашым намаганьням, асабліва-ж Мітрапаліта БАПЦ Мікалая, Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы й яе мужа інж. Янкі Сурвіллы, Старшыні Галоўнай Управы ЗБК Міколы Ганька і ягонай жонкі Марыі, д-ра Барыса Рагулі дый іншых ведамых і прыязных нам канадыйцаў рознага этнічнага паходжаньня ў харытатыўным полі пасьля Чарнобыльскай аварыі згуртаваліся нашыя асноўныя сілы.

Сп-ня Марыя Ганько, скарбнік парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта, на нашую просьбу падала такія лічбы: старшыня Чарнобыльскага Фонду помачы сп. Грушавы ў 1991-м годзе атрымаў 23 680 даляраў. Для лекаў і іх перасылкі Кансысторыя БАПЦ выдала 67 971 даляр.

Гэтыя лікі даюцца як прыклады. Сюды не ўваходзяць шматлікія кошты падарожжаў у Беларусь, у шпіталі, дастава лекаў.

Мы, супольна з кандыйцамі, людзьмі добрай волі, штогод прыймалі тут сотні дзетак з чарнобыльскай зоны, шматлікія мелі тут мэдыцынскую помач.

Надта дарога каштавалі перапумачаныя беларускамоўныя выданьні. Гэтак прыкладам, "Службоўнік" - Сьв. Літургія, выданая ў Таронта ў 1980-м годзе, каштавала 12 тысяч даляраў за 250 асобнікаў.

У 1988-м годзе на Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі на запрашэньне нашай парафіі прыехаў гуртон музыкаў зь вёскі Дубіны ў Беласточчыне. На куплю музычных інструмэнтаў для іх ды ўтрыманьне выдалі звыш 33 000 даляраў. Іхны кіраўнік Пятро Скепка падпісаў з нашай парафіяй кантракт, што перадасьць інструмэнты іншым асобам, каб маглі беларусы Беласточчыны карыстацца. Скепка прысвоіў інструмэнты сабе і, абласаваўшыся грамадзкімі грашыма, падаўся ў ЗША, каб яшчэ больш нажыцца.

Нашая матэрыяльная шчодрасьць, любоў да паняволенае Бацькаўшчыны фінансава не маглі забясьпечыць усіх просьбаў, як прыкладам, больш помачы для беларускіх школаў у Вільні, але-ж самі выгнаньнікі з "раскіданых гнёздаў" колькі маглі памаглі суродзічам. Дзіва няма, што й сяньня некаторым - у бальшыні маральным абібокам - цяжка было нас і нашую дзейнасьць зразумець.

Прыкладам, дарам Госпада Бога стаўся для нас Сьветлай Памяці Першы Ярарх БАПЦ Мікалай. У ягонай любві "Сьвятой Беларусі", малітвах за Яе, штодзённай працы й змаганьні за Яе вызваленьне, у ягонай сяўбе адвечнага, разумнага, роднага, добрага выявілася тое самае, што ў наступных радках, якімі кожны з нас калісьці выбраў свой шлях:

Я зганьбаваную сьвятыню
Як мог, што сілаў аднаўляў.
На помач клікаў на чужыне,
Шляхі і вехі ўстанаўляў!

І благаслаўлены Ўсявышні
Нас верай, сілай надзяляў -
Народ наш на зямлі ня лішні!
¨н будзе жыць, як хваль прыліў!

***К. АКУЛА***

# МОТАЛЬ, ЯНАВА...

У нэкралёзе аб сьв. пам. Мітрапаліце Мікалаю ("Беларус" №474) сп. К. Акула ўспамінае мясцовасьці Моталь і Янава. Хачу даць трохі інфармацыі аб гэтых гарадках.

Моталь ляжыць маляўніча над ракой Ясельдай і акружаны дрымучымі лясамі. Да вайны жыло там шмат габрэяў; у Моталі нарадзіўся (у 1874-м годзе) вучоны, прафэсар-хімік, сіяніст, першы прэзыдэнт Ізраіля Хаім Вэйцман.

Па сканчэньні гімназіі ў Пінску вучыўся ён у Бэрліне і Швэйцарыі. Ад 1904-га году быў прафэсарам хіміі ва ўнівэрсытэце ў Манчэстэры, Ангельшчына. У яго было 14 братоў і сясьцёр, і ўсе яны, за выняткам аднае асобы, былі навукоўцамі, лекарамі, дантыстамі, інжынерамі, выкладчыкамі. Памёр Хаім Вэйцман у Ізраілі ў 1952-м годзе.

Зьдзіўляе аднак, што ў энцыклапэдыях пішуць, што ён нарадзіўся ў... Расеі. А ў такой прэстыжнай энцыкляпэдыі як Брытаніка (выдаецца ў ЗША) пішаца, што Х. Вэйцман нарадзіўся ў ... Польшчы, у Расейскай імпэрыі.

Аўтар гэтага артыкула пісаў шмат лістоў да розных выдавецтваў і зьвяртаў іх увагу, што Моталь ёсьць у Беларусі.

Добра зрабіў сп. Акула, што ўжыў гістарычны назоў Янава, а не цяперашні Іванава. Зьмена зь Янава на Іванава наступіла пасьля апошняй вайны. Цяжка зразумець, а тым больш усправедлівіць гэтую зьмену, бо ў былым СССР было шмат вялікіх і малых гарадоў з назовам Іванава. Каб пазьбегнуць непаразуменьняў, чыгуначную станцыю ў цяперашнім "Іванаве" пакінулі як "Янаў-Палескі". Што за недарэчнасьць?

Пара вярнуць Янаву яго гістарычны назоў!

Між іншым, Янава калісь называлася Порхавам. У 1423-м годзе ўласьнік вёскі падараваў яе луцкаму касьцёлу. А ў 1465-м годзе вёска Порхава была пераіменаваная ў Янава ў гонар луцкага япіскапа Яна Пасовіча.

***М. ШВЭДЗЮК***

# З ДУМКАЮ ПРА РАДЗІМУ

## На сустрэчы беларускага зямляцтва ў Чыкага

Пяць гадоў таму эміграты, якія прыехалі з краінаў былога СССР ў Чыкага і ягоныя ваколіцы прыкладна ў апошнія два дзесяцігодзьдзі, заклалі грамадскую арганізацыю - Асацыяцыю "Землякі". Побач зь іншымі ўтварылася і беларускае зямляцтва. Сталася добрай традыцыяй у тых, хто прыехаў зь Беларусі, штогод зьбірацца, дзяліцца ўспамінамі, прыгадваць маладосьць...

Чарговая такая сустрэча адбылася ў залі чыкагскага ОРТ-інстытуту 14-га ліпеня. Яна была прысьвечаная гадавіне вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і дзьвум знамянальным юбілеям: 120-годзьдзю зь дня нараджэньня вялікага беларускага паэты Янкі Купалы й 115-годзьдзю выдатнейшага мастака, ураджэнца зямлі беларускай Марка Шагала.

Яшчэ зусім нядаўна жыцьцё тых, хто прыйшоў на сустрэчу (а іх было каля 150 чалавек), было цесна звязанае зь Беларусьсю, зь лёсам яе шматпакутнага народу. На сымбалічнай пераклічцы ў пачатку сустрэчы - хто і адкуль - гучалі назвы ня толькі вялікіх і ведамых гарадоў Менска, Берасьця, Горадні, Віцебска, Магілёва, Гомля, Слуцака, Барысава, Слоніма, Маладэчна, але й былых мястэчак Камарына, Парычаў... Вайна і антысеміцкая палітыка афіцыйных уладаў апаліла лёс амаль кожнага, хто быў у гэтай залі; таму, пэўна, такімі ўсхваляванымі былі ў той вечар сустрэчы, прамовы, успаміны...

Адкрыў урачыстасьць прэзыдэнт беларускага зямляцтва Іосіф Кацман. У сваім лірычным вершы, які ён напісаў да гэтай сустрэчы, ён заклікаў "адкінуць слова "настальгія" і проста ўспомніць Беларусь". Усіх вітаў гасьцінны гаспадар, дырэктар ОРТ-інстытуту Артур Элдар. А потым быў паказаны слайд-фільм, падрыхтаваны кіраўніцтвам беларускага зямляцтва. Прысутныя ўбачылі краявіды гарадоў і сёлаў Беларусі, цікавыя архітэктурныя помнікі, непаўторныя лірычныя пейзажы. Дэманстраваліся і рэпрадукцыі карцінаў Марка Шагала. Міра Рапапорт, якая раней працавала настаўніцай беларускай мовы й літаратуры на Слонімшчыне, суправаджала гэты паказ слайдаў чытаньнем сьвых "Спадчыны" Янкі Купалы, урыўкаў з "Новай зямлі" Якуба Коласа, вершаў беларускіх паэтаў Міколы Аўрамчыка, Адама Русака, Ніла Гілевіча, Сяргея Панізьніка.

Ад імя вэтэранаў Другой сусьветнай вайны выступіў Ільля Мац, які падзяліўся ўспамінамі пра той час, а потым выканаў песьню "Враги сожгли родную хату..." Вялікай цікавасьцю карысталася выстава карцін і графічных працаў мастачкі Ады Бяркорвіч, якая прыехала ў Чыкага зь Беларусі 13 гадоў таму. Выстава была разгорнутая на спэцыяльных стэндах у залі. Прысутныя цёпла віталі мастачку, якая расказала пра свой лёс і свае карціны.

Канцэртную праграму гэтай сустрэчы распачаў Іосіф Гусараў. Папулярныя ў розныя часы песьні сьпявала Валянціна Марчанка. У выкананьні Эсфір Рэхтман прагучалі вершы й рамансы вядомага чыкагскага паэты й кампазытара Міхася Клейнера. У праграме ансамблю ў складзе Ноаха Марсэла, Галіны Паповай і Льва Зарыцкага прагучала спэцыяльна напісаная да сустрэчы песьня Ноаха Марсэла "Ты - мой сум, мая радзіма Беларусь". Узрадаваў і пацешыў усіх дзіцячы танцавальны гурт у складзе Улады й Маі Машковіч, Пола Ульянава і Ярaслава Вароніна.

Часта гучала на вечары й паэтычнае слова. Свае вершы й творы іншых паэтаў чыталі Эсфір Гланцман і Іда Аўруцкая. Аўтар гэтай інфармацыі сказаў слова пра Янку Купалу, а таксама пазнаёміў усіх з забароненым да публікацыі на радзіме пры савецкай уладзе славутым вершам песьняра "Жыдам Беларусі".

Міра Рапапорт была своеасаблівай гаспадыняй на гэтым вечары. Музычную праграму пасьпяхова вёў Аркадзь Пеўны. Часта гучала музыка, і танчылі ўсе - і маладыя, і тыя, каму хутка дзевяноста. Адмысловымі прызамі былі ўзнагароджаныя ўдзельнікі ўсіх пяці папярэдніх сустрэчаў беларускага зямляцтва.

Мяркую, што гэта цікавая сустрэча надоўга застанецца ў памяці тых, хто прыняў у ёй удзел.

***Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ***



*Мастачка Ада Бяркрвіч каля сваіх карцінаў на выставе падчас сустрэчы*

# МАСТАК У АПАЗЫЦЫІ ЎЛАДЗЕ

Ледзь ня кожны выступ для ведамага ў Беларусі мастака Алеся Пушкіна заканчваецца пастарункам. Вось і 3-га ліпеня, калі ў Менску адзначалі некалькі дзяржаўных сьвятаў, і на вуліцах віравалі вясёлыя людзкія натоўпы, мастака ізноў затрымалі й у кайданках адвезьлі ў КПЗ. Затрымалі за чарговы пэрформанс, прысьвечаны тэме калябаранцтва ў гады Другой сусьветнай вайны.

Далей расказвае сам Алесь Пушкін: "Я зладзіў акцыю пад назваю "Жаўнер удачы" надвячоркам 3-га ліпеня паміж рэстарацыяй "Папараць-кветка" і Чырвоным касьцёлам. Узяў нямецкую аўчарку па мянушцы Ганс, сам апрануўся ў форму, якую насілі жаўнеры беларускіх нацыянальных фармаваньняў у гады вайны, узяў лялькі дзіцячыя, узяў некалькі мэтраў белай тканіны, а таксма белую й чорную фарбы.

Дзея пачалася пад музыку з альбому "Mutter" нямецкага гурта "Rammstein". Я намаляваў беларускую васьміканцовую зорку, потым зьявілася аўчарка і пачала нешта вынюхваць. Нарэшце яна знайшла партрэты беларускіх генэралаў Усевалада Родзькі й Міхася Вітушкі. Іх лёсы надзвычай складаныя. Гэта тыя людзі, якімі мы павінны ганарыцца, але дзякуючы каляніяльнай палітыцы беларускіх уладаў, іх дзейнасьць ужо 57 гадоў замоўчваецца, хоць у спэцсховах КГБ да гэтай пары захоўваюцца іх асабістыя справы. Родзька й Вітушка стварылі Беларускую Незалежніцкую Партыю.

І вось Ганс знайшоў іхныя партрэты... Ня буду тлумачыць, тут кожны павінен сам разьбірацца. Узяўшы лялькі, я з аўчаркаю пайшоў купаць іх у басэйне, а потым расклаў іх перад партрэтамі. На прасьціradle зьбіраўся напісаць лёзунг "Слава героям!", які дзьве дзяўчыны з Коханава, Воля і Галя, павінны былі падняць над галовамі. Яшчэ дзьве дзяўчыны несьлі-б партрэты Родзькі й Вітушкі, і мы-б па праспэкце Скарыны, які на тую пару стаў пешаходнаю зонаю, прайшлі-б да плошчы Перамогі. Бо, я перакананы, лёсы Родзькі й Вітушкі наўпрост зьвязаныя з вызваленьнем Беларусі ад немцаў."

Але ўжо праз 10 хвілінаў да мастака падышоў міліцыянт і папярэдзіў, што выклікае нарад міліцыі, паколькі дзеяньні пэрформанса ніяк не зьвязаныя са сьвяточным плянам мерапрыемстваў у горадзе. Неўзабаве зьявіўся і нарад, які загадаў сабраць усе рэчы. Мастак адмовіўся падпарадкоўвацца.







¨н ледзь пасьпеў падняць угару партрэты генэралаў і крыкнуць: "Людзі! Памятайце аб подзьвігу Усевалада Родзькі й Міхася Вітушкі! Слава героям!" Партрэты выбілі з рух, перакулілі фарбу, якая расьцяклася па ходніку і па чаравіках міліцыянтаў. Алесь Пушкін супраціўляўся як мог, пакуль яго не запіхалі ў варанок. Такім чынам, пэрформанс не ўдалося завершыць.

¨сьць магчымасьць паказаць чытачам "Беларуса" партрэты Усевалада Родзькі й Міхася Вітушкі, якія Алесь Пушкін трымаў падчас пэрформанса, а таксама здымкі, зробленыя падчас затрыманьня мастака.

*Матэрыялы ўзятыя з вэб-старонкі Алеся Пушкіна*

# "МАРЫЯН ГАЎЗ"

Пару месяцаў таму беларуская прэса падала такую сэнсацыю, што Ватыкан хоча забраць ад беларусаў культурны цэнтар у Лёндане - "Марыян Гаўз". Тут трэба сказаць, што гэта не адзін дом, а чатыры вялікія дамы. Тры дамы ў блёку адзін за адным, а чацьвёрты насупраць праз вуліцу, дзе знаходзіцца капліца.

У прэсе была пададзеная просьба да беларусаў і зьмест просьбы да прадстаўніка ў Ватыкане, каб пакінуць гэты дом беларусам. Пачуліся галасы, што на "Марыян Гаўз" беларусы ахвяравалі грошы.

На колькі я памятаю, беларусы Велікабрытаніі ахвяроўвалі грошы на дом сваё арганізацыі - Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ). Таксама ахвяроўвалі грошы на дом арганізацыі Хрысьціянскае Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў (ХАБР). І гэтыя дамы былі купленыя. Але я ня чуў, каб быў заварот да беларусаў ахвяроўваць грошы на "Марыян Гаўз", якія зьяўляецца домам каталіцкае місіі. Па вайне ў Лёндане было часам да 10-ці беларускіх каталікоў-сьвятароў. І, як відаць, дзеля іхня місійнай дзейнасьці былі ахвяраваныя гэтыя дамы. Перад будынкам капліцы стаіць дошка, на якой напісана па-ангельску "Католік Мішэн..."

Чуў я, што толькі дом Беларускай Бібліятэкі зьяўляецца ўласнасьцю беларусаў. Чуў таксама, што беларусы ахвяроўвалі грошы на Беларускую Бібліятэку, але не на "Марыян Гаўз", як яго папулярна называюць беларусы.

У сапраўднасьці ніхто ня ведае, якое права маюць беларусы да гэтых дамоў і ці маюць увогуле? Калі Ватыкан даў гэтыя дамы беларусам 50 гадоў таму, а цяпер хоча забраць, дык гэта ня ёсьць хрысьціянскі паступак.

А можа Ватыкан робіць свой трук, што ён забірае гэтыя дамы, каб беларусы прасілі іх пакінуць, і тады з волі Божай Ватыкан акажа сваю ласку і пакіне іх беларусам, каб яны дзякавалі за гэта.

Калі апошнімі гадамі нешта адбывалася беларускага ў залі беларускага цэнтру, то чулася падзяка айцу Надсону за дазвол.

Усё-ж цікава было-б ведаць, якое права маюць беларусы Ангельшчыны да "Марыян Гаўзу", і ці ахвяроўвалі яны грошы на яго? І яшчэ адная заўвага. Калі падыйсьці бліжэй да дому Беларускай Бібліятэкі й глянуць на яго, то ён выглядае даволі добра. Але рэшта дамоў просіць гаспадара, каб ён хоць крыху аднавіў іхні вонкавы выгляд, які ёсьць занядбаны. Дык дзе ён, і хто гаспадар "Марыян Гаўзу"?

*Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ*

# НОВЫ СТАРШЫНЯ ПЭН-ЦЭНТРУ

Новым старшынём Беларускага ПЭН-цэнтру абраны Андрэй Дынько. ¨н зьмяніў на гэтай пасадзе Адама Мальдзіса. Андрэй Дынько — перакладчык, публіцыст, аўтар шэрагу апавяданьняў. Яму 28 гадоў. Выкладаў у Менскім дзяржаўным лінгвістычным унівэрсытэце, працаваў дырэктарам часопісу "Arche", галоўны рэдактар (з 2000 году) газэты "Наша Ніва". Перакладае з ангельскай, італьянскай, польскай, францускай, украінскай моваў.

Беларускі ПЭН-цэнтар — няўрадавая, непалітычная, некамэрцыйная арганізацыя. Створаны ён быў у лістападзе 1989 году. У траўні 1990-га Беларускі ПЭН-цэнтар прыняты ва Усясьветную асацыяцыю пісьменьнікаў "Міжнародны ПЭН-клюб". Як сябра Міжнароднага ПЭН-клюбу, Беларускі ПЭН-цэнтар мае статус "А" ў ЮНЭСКА й дарадчы статус у ААН.

ПЭН-цэнтар — аб'яднаньне прафэсійных літаратараў, створанае з мэтай пашырэньня інтэлектуальнага супрацоўніцтва прадстаўнікоў творчых прафэсій, удзелу ў міжнароднай літаратурнай супрацы, разьвіцьця беларускай культуры, выхаваньня ў грамадзкай сьвядомасьці высокіх гуманістычных ідэалаў — азначана ў Статуце арганізацыі.

У склад Беларускага ПЭН-цэнтру цяпер уваходзяць 85 пісьменьнікаў, якія жывуць у Беларусі й па-за ейнымі межамі — у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Нью-Ерку, Лёндане, Бэрліне, Флярэнцыі, Варшаве, Беластоку. Прэзыдэнтам Беларускага ПЭН-цэнтру зьяўляецца Васіль Быкаў, сябрамі — такія вядомыя пісьменьнікі, як Рыгор Барадулін, Святлана Алексіевіч, Уладзімер Арлоў, Міхась Тычына, Валянцін Тарас, Карлас Шэрман і многія іншыя.

*www.naviny.com*

# ПЕРАМОГА БУДЗЕ ЗА НАМІ!

## ЛІСТ ДА ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ

**Дарагія беларусы!**

Расейскі імпэрыялізм адкрыта заявіў пра пляны й тэрміны захопу (анэксіі) Беларусі. Пачынаецца міжнародны разбой. Дарогу агрэсіі вызначыла вайна ў Чачэніі й Аўганістане. Цяпер расейскія падпальшчыкі вайны перакідваюцца ў Цэнтральную Эўропу, ствараюць праблему Калінінградзкай вобласьці й заяўляюць пра намеры захопу Беларусі - краіны-ўдзельніцы ААН.

Пра падрыхтоўку падзеяў, якія цяпер адбываюцца, пра мэты й пляны расейскай агрэсыўнай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі прыходзілася адкрыта папярэджваць, пісаць і казаць яшчэ ў 1994-96-х гадох, з поўным вызначэньнем сутнасьці, тэрміналёгіі й называньнем рэчаў сваімі імёнамі.

Рэакцыя Масквы й прамаскоўскіх прыслужнікаў-камуністаў у Беларусі была істэрычнай. Яны захлыналіся ад злосьці (галасавалі нават у Вярхоўным Савеце аб узбуджэньні супраць мяне крымінальнай справы).

Нянавісьць і абплёўваньне майго імя, інсьпіраваныя "пятай калёнай" і расейскай разьведвальнай агентурай у Беларусі, вялі да лягічнага завяршэньня бруднай палітыкі - да забойства. Гэта стала вядома і выклікала прычыну маёй эміграцыі.

Цяпер тое, што Масква рабіла супраць Беларусі часткова таемна, сталася ўжо відочным. Можна чакаць чарговага выбярэньня нянавісьці й паклёпу.

За гады майго палітычнага змаганьня ў эміграцыі, якія толькі арсэналы брудных тэхналёгіяў ні выкарыстоўвалі супраць мяне. "Палітычны труп," - хорам паўтаралі маскоўскія паліттэхнолягі. Альбо: "ён уцёк", "ён спалохаўся", "яго забылі", "ён адарваўся", "ён не арыентуецца", "ён зьехаў", "ён ніхто", "непатрэбны чалавек", "кулю яму, кулю", "кто пульнёт?" і г.д.

Усім знаёмыя гэтыя "ідэалягемы", як называюць такія фармулёўкі па абплёўваньні палітычнай асобы гэбісты, што іх прыдумваюць і распаўсюджваюць.

У апошні час выпрацавалі казуістычны выверт, які гучыць так: "Чаму ён не вяртаецца?" ці "Калі гэта ён вернецца?". Мадыфікацыя на ўсе лады. Напрыклад: "Прыязджайце, Зянон Станіслававіч (ці "вяртайцеся"), будзем разам змагацца". Альбо: "Калі вернецеся, Зянон Станіслававіч?" і г.д.

"рніцтва прыдумана з улікам агульнавядомага распараджэньня Лукашэнкі схапіць мяне на мяжы пры спробе яе пераезду. (Пад гэта-ж адчынілі на мяне яшчэ крымінальную справу, нібыта за палітычныя артыкулы, надрукаваныя ў беларускіх газэтах.)

Паколькі ведама, што прыехаць немагчыма (бо схопяць на мяжы), "ідэалягема" прыносіць вялікую радасьць яе стваральнікам. Агентура пісакаў (і проста недалёкіх людзей) не стамляюцца яе паўтараць.

Палітыкі звычайна не зьвяртаюць увагі на арганізаваныя абгаворы (і нягоднікі гэтым карыстаюцца). Бо ўступаць у высьвятленьні зь нізкасьцю - гэта тое самае, што адказваць на сабачы брэх. Тут адно з двух: альбо ісьці й не зьвяртаць увагі (як робіць большыня людзей), альбо ўзяць кій і пагнаць усю зграю.

Ня маю ніякай ахвоты махаць кіем (шкода часу), але мушу заўважыць некаторым "гаспадам", што за гэтай бруднай справай стаяць.

*Беларускае Адраджэньне жыве і будзе жыць! Мы зрабілі высновы з крывавай нашай гісторы йі навучыліся палітычна змагацца з маскоўскім варварствам. З намі не паўторыцца і ня ўдасца так, як з Ластоўскім, Лёсікам, Цьвікевічам, Тарашкевічам ды іншымі беларускімі адраджэнцамі, якіх расейцы завабілі ў БССР і замардавалі ўсіх.*

*У змаганьні трэба перамагаць, і мы пераможам гнілую імпэрскую Расею, як некалі перамаглі глінянага велікана - Савецкі Саюз.*

Цяпер, у асаблівы для Беларусі час, я зьвяртаюся да ўсіх беларусаў: ня слухайце нізкай, варожай, антыбеларускай прапаганды. Падтрымлівайце людзей, што ахвярна працуюць для Беларусі і змагаюцца за яе шчасьце. Ня слухайце моўчкі, калі нягоднікі адмыслова абгаворваюць нашага вялікага Васіля Быкава. Давайце адпор. Не дапускайце, каб бэсьцілі Раду БНР (бо каб не было БНР - ужо не было-б і ўсіх нас). Не дазваляйце зьневажаць нашыя сьвятыя сымбалі - гэрб Пагоню і Беларускі Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, нашу спадчыну, Курапаты, гісторыю, нашу беларускую мову, нашу сьвятую Бацькаўшчыну Беларусь.

*Зянон ПАЗЬНЯК*
*Старшыня Беларускага*
*Народнага Фронту "Адраджэньне"*

**Віншуем вельмі паважанага Др. ЯЗЭПА САЖЫЧА, грамадзка-палітычнага дзеяча, перадапошняга Прэзыдэнта БНР, нястомнага змагара за вольную Беларусь з 85-мі ўгодкамі жыцьця. Жадаем здароў'я й памысьнасьці ў далейшых гадох.**

**Віншуем шаноўную сп-ню МАРЫЮ КАЖУРА з 80-мі ўгодкамі зь дня нараджэньня. Жадаем моцнага здароў'я і ўсяго самага найлепшага.**

**Нядаўна выйшла з друку новая кніга дасьледчыка Лявона Юрэвіча "ЛІТАРАТУРНЫ РУХ НА ЭМІГРАЦЫІ" (Менск, 2002).**

**На 230-ці бачынах - агульная карціна эміграцыйнай літаратуры, постаці аўтараў, невядомыя факты, унікальныя здымкі. Кніга зьмяшчае кароткія біяграмы пісьменьнікаў, створаныя рэдактарам А. Гардзіенкам.**

**Набыць кнігу можна зьвярнуўшыся непасрэдна да рэдактара:**

***Алег Гардзіенка***
***вул. Казінца 51/5, 8***
***220099 г. Менск***
***БЕЛАРУСЬ***

**Электронная пошта:** ***hardzijenka@tut.by***

**Тэлефон у Менску:** ***375 (17) 277-40-63***




## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| М. Смаршчок | 100 | Я. Шымчык | 35 |
| М. і В. Богдан | 50 | В. Адашкевіч | 30 |
| Л. І В Ракуць | 50 | Р. Жук-Грышкевіч | 30 |
| Г. Руднік | 50 | А. Лістоўская | 30 |
| А. Субота | 50 | А. Радзюк | 30 |
| Н. і С. Дудар | 40 | Н. Міцкевіч | 20 |
| М. Кажура | 40 | Г. Харавец | 20 |

**Замiж кветак на магілу Уладыкі Мікалая:**

Я. Сажыч 50

**Замiж кветак на магілу Кастуся Калошы:**

Ю. Найдзюк 50

**У памяць мужа Алега Дубягі**

Ж. Дубяга 50

**АХВЯРАВАНЬНІ, САБРАНЫЯ НА 25-й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ П. АМЭРЫКІ:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| К. Романо | 200 | В. і Ф. Бартуль | 20 |
| К. Ворт | 50 | Н. і Я. Запруднік | 20 |
| В. Дубяга | 50 | Я. Кабяка | 20 |
| А. і П. Рыжы | 50 | А. Міцкевіч | 20 |
| А. Сёмуха | 40 | Н. і А. Сільвановіч | 20 |
| М. і К. Верабей | 30 | А. Субота | 20 |
| К. і Я. Вініцкія | 30 | В. Тальянская | 20 |
| І. і В. Гурскія | 30 | В. Кажан | 15 |
| Я. Кажан | 30 | Ю. Касьцюкевіч | 10 |
| С. Шумскі | 30 | Т. Красоўская | 10 |
| Л. Гутырчык | 25 | Ю. Шкетава | 10 |
| Я. Азарка | 20 | Усім шчыры дзякуй! | |

**УДАКЛАДНЕНЬНІ**

Прыносім прабачэньне за недакладнасьці, якія былі ў папярэднім нумары "Беларуса" ў аб'яве аб 25-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі на 1-й бач.

У тым самым нумары ў артыкуле пра III-ю Канфэрэнцыя Беларусаў Балтыі на 2-й бач. Івонка Сурвілла дзякуе сп-ву Сяргея Харэўскага і Тані Маркавец, а не Лявона Харэўскага, як было памылкова напісана.

***Газэта "БЕЛАРУС"***

***надрукуе бясплатна кароткія прыватныя аб'явы некамэрцыйнага характару, зьмесьцім віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды іншыя абвесткі. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

**У жніўні споўнілася 10 гадоў зь дня сьмерці ПЕТРЫ КАЖУРЫ, ахвярнага беларускага грамадзкага і царкоўнага працаўніка, аднаго з заснавальнікаў царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку, кіраўніка парафіяльнае рады.**


**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

***Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е Падпіска $30 на год.***

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

***Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc. Subscription $30 yearly***

***Рэдагуе калегія.***

*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***

*Тэхнічны рэдактар*
***Мікола Шыдлоўскі***

*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*





**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

**E-mail:**
hazetabielarus@att.net

**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org